Гродна
№6 (441),
20 сакавіка 2016

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ВЕРБНІЦА АДКРЫВАЕ ВЯЛІКІ ТЫДЗЕНЬ



Уздымаем угору зялёныя галінкі, каб разам з іншымі ўсклікнуць "Гасанна"

*Усе католікі свету перажываюць сёння Вербную, або Пальмовую нядзелю. Традыцыйна перад пачаткам службы праводзіцца працэсія вакол святыні. Удзельнікі трымаюць у руках вербачкі. Падчас шэсця спяваюцца святочныя антыфоны і гімн Хрысту Валадару. Працэсія сімвалічна ўяўляе сабою людзей, якія выйшлі насустрач Збаўцу падчас Яго ўваходу ў Ерузалем, радасна вітаючы Хрыста як цара, прарока і цудатворцу.*

***На падрыхтоўку да Вялікадня застаецца сем дзён.***

## ПАСХАЛЬНЫ ТРЫДЫУМ – ВЯРШЫНЯ ЛІТУРГІЧНАГА ГОДА



• працяг на с. 5

### Каляндар падзей

*24 сакавіка*
ВЯЛІКІ ЧАЦВЕР.
Молімся за святароў і новыя пакліканні да Божай службы.

*25 сакавіка*
ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА.
Абавязковы сціслы пост.
Першы дзень Навэнны да Божай міласэрнасці.

*26 сакавіка*
ВЯЛІКАЯ СУБОТА.
Рэкамендуецца ўстрыманне ад мясных прадуктаў.
Асвячэнне велікодных страў.

*27 сакавіка*
НЯДЗЕЛЯ ЎВАСКРАСЕННЯ.

*3 красавіка*
Нядзеля Божай міласэрнасці.

### Запрашаем!

**Праграма каталіцкай рэдакцыі**

**"Сімвал веры"**
Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале "Беларусь-4"
**5 красавіка**
**ў аўторак у 19.45**
пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.

### Ружанцовыя інтэнцыі:

**Сакавік**
Аб ласцы навяртання і сапраўдным паяднанні з Богам і бліжнімі для непрактыкуючых вернікаў.

Аб узрастанні дабрачыннай дзейнасці ў парафіяльных супольнасцях.

### Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

**У якіх набажэнствах Вы прымеце ўдзел падчас Вялікага тыдня і Велікодных свят?**

- Вялікі чацвер
- Вялікая пятніца
- Вялікая субота
- Пасхальная вігілія
- Рэзурэкцыя
- ва ўсіх
- цяжка сказаць

Выкажыся 

**"Праўда аб Уваскрасенні наказвае шанаваць жыццё" – папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Лк 19, 28-40**

Езус пайшоў далей, узыходзячы ў Ерузалем. І калі Ён наблізіўся да Бэтфагіі і Бэтаніі, да гары, называнай Аліўнай, паслаў двух вучняў сваіх, кажучы: "Ідзіце ў вёску, што перад вамі, і, калі ўвойдзеце ў яе, знойдзеце прывязанае асляня, на якое ніхто з людзей ніколі яшчэ не сядаў. Адвяжыце яго і прывядзіце. І калі нехта спытаецца ў вас, навошта адвязваеце, скажыце яму так: «Яно патрэбна Пану»". Пасланцы пайшлі і знайшлі ўсё так, як сказаў ім. А калі яны адвязвалі асляня, гаспадары яго запыталі іх: "Навошта адвязваеце асляня?". Яны адказалі: "Яно патрэбна Пану". І прывялі яго да Езуса, і, накінуўшы на асляня свае адзенне, пасадзілі Езуса. І калі Ён ехаў, рассцілалі адзенне сваё на дарозе. А калі наблізіўся да падножжа гары Аліўнай, усё мноства вучняў Ягоных пачало ў радасці гучным голасам славіць Бога за ўсе цуды, якія яны бачылі, кажучы: "Бласлаўлёны Кароль, які ідзе ў імя Пана! Спакой у небе і хвала на вышынях!". Некаторыя фарысеі з натоўпу сказалі Яму: "Настаўнік, забарані вучням Тваім". А Ён адказаў: "Кажу вам, калі яны змоўкнуць, дык камяні закрычаць".

### ПЕРАМОЖНАЯ ПРАЎДА

Як жа зменлівы быў зямны лёс Езуса з Назарэта – Бога-Чалавека! Сёння натоўп усхваляе Яго як Караля, а праз некалькі дзён будзе крычаць аб укрыжаванні. Не нашмат лепш было раней. Ён навучаў, аздараўляў, нават уваскрашаў памерлых. А вынік? Так, некаторыя лічылі Езуса прарокам, пасланым ад Бога. Але гэтыя ж словы і ўчынкі Хрыста сцягвалі на Яго варожасць людзей улады, жаданне абвінаваціць Яго, сляпую нянавісць. Урэшце рэшт, нават самыя блізкія сябры пакінулі Езуса, Ён застаўся адзін...

Аднак, гэта Ён меў рацыю! І заўсёды будуць людзі, гатовыя жыць Евангеллем і з адвагай несці яго ўсяму свету. А калі яны дзесьці замаўкаюць з-за нянавісці і крывавага пераследу, то пачынаюць гаварыць іх магілы. Ужо не ўдасца пахаваць Таго, хто праз уваскрасенне перамог зло і смерць.

**НЯДЗЕЛЯ УВАСКРАСЕННЯ ПАНА**
**Ян 20, 1–9**

У першы дзень тыдня Марыя Магдалена прыйшла да магілы раніцай, калі было яшчэ цёмна, і ўбачыла, што камень адсунуты ад магілы. І пабегла, і прыбыла да Сымона Пятра і да другога вучня, якога любіў Езус, і сказала ім: "Забралі Пана з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго".

Тады выйшаў Пётр і другі вучань, і пайшлі да магілы. Пабеглі абодва разам. І другі вучань пабег наперадзе хутчэй за Пятра і прыбыў да магілы першы. Заглянуўшы, убачыў, што ляжаць палотны, аднак не ўвайшоў. Тады прыйшоў за ім Сымон Пётр і ўвайшоў у магілу, і ўбачыў палотны, якія там ляжалі, і хусту, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная на іншым месцы. Тады ўвайшоў і той другі вучань, што прыбег першы да магілы, і ўбачыў, і паверыў. Бо яны яшчэ не ведалі Пісання, што трэба было Яму ўваскрэснуць з мёртвых.

### ПУСТАЯ МАГІЛА НЕПАКОІЦЬ

Падчас Свят каля магілы Езуса мітусня. Усіх цікавіць сцверджаны факт, што магіла, куды тры дні таму паклалі цела ўкрыжаванага Асуджанага, апусцела. Каля яе будуць круціцца розныя людзі. Трэба прызнацца, знойдуцца і такія, хто там зусім не пакажацца, бо яны загадзя маюць гатовы адказ: цела было выкрадзена. Яны не прыйдуць, бо пустая магіла напаўняе іх жахам. Яны гатовы былі даволі шмат "укласці" ў суцішэнне ўсёй гэтай справы. Але калі спроба не атрымалася, то зноў вярнуліся да насілля.

І яшчэ: як у Ерузалеме дваццаць стагоддзяў таму, так і сёння па ўсім свеце мноства людзей глыбока перакананыя, што Ён уваскрос! І яны расказваюць пра сустрэчы з Ім. Прыгадваюць навуку Хрыста, расказваюць пра здзейсненыя раней цуды. Нямала таксама сведчанняў пра незвычайныя рэчы, якія і сёння здараюцца ў Яго імя.

А з якімі думкамі ў сэрцы я схілюся над пустой магілай?

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*



**СЛОВА РЭДАКТАРА**
*Кс. Павел Салабуда*

# Няхай у кожным з нас уваскрэсне Міласэрнасць

*У папярэднім нумары мы змясцілі вельмі красамоўныя словы папы Францішка: "Будзьма міласэрнымі да іншых і самі спазнаем міласэрнасць Бога". У Год міласэрнасці мы нястомна над гэтым разважаем, стараючыся паглыбіць таямніцу міласэрнасці і падзяліцца гэтым дарам з іншымі.*

Час, у які мы жывём, становіцца ўсё больш і больш цяжкім ва ўсіх адносінах, таму варта спачатку паразважаць над пытаннем, што сёння значыць быць міласэрным? Адказ нам дапамагае знайсці Святы Айцец Ян Павел ІІ, які сцвярджае ў энцыкліцы "Dives in misericordia" : "Хрыстос навучыў нас, што чалавек не толькі зазнае міласэрнасць самога Бога, але і пакліканы сам чыніць міласэрнасць іншым" (DM 14). У сучасным свеце аднаго толькі слова недастаткова, таму што мы самі разумеем, што можна казаць адно, а рабіць зусім іншае, бо сказаць лёгка, а зрабіць штосьці – цяжэй.

Сёння неабходны, перш за ўсё, учынкі, неабходна сведчанне дзеяннем. Таму, адчуваючы любоў Бога-Чалавека, перажываючы вялікі Трыдыум выратавання душы, мы можам дзяліцца з іншымі любоўю, можам адважыцца на прабачэнне і паспяшацца з дапамогай да тых, каму неабходна наша падтрымка. Чалавек не здольны зрабіць гэта самастойна, таму што сёння ўсё цяжэй дзяліцца міласэрнасцю бясплатна, не чакаючы ўзнагароды. Усё цяжэй сабрацца і нарэшце прабачыць тым, хто нас пакрыўдзіў. Нялёгка спяшацца камусьці на дапамогу, калі мы самі хацелі б, каб нам хтосьці дапамог.

Адкуль на ўсё гэта чэрпаць сілы? Перш за ўсё, каб рэалізаваць гэтыя добрыя справы, варта прыступіць да сакрамантаў. Менавіта яны даюць нам моц для здзяйснення добрых учынкаў. Сустракаючыся з міласэрным Хрыстом, мы заўсёды можам разлічваць на сваё ўваскрасенне да жыцця, да міласэрнасці. Гледзячы на сённяшнюю сітуацыю, поўную напружання, свету патрэбны апосталы міласэрнасці, якія яго зменяць.

Дарагія Чытачы, у гэтым годзе на святы Уваскрасення Пана дазвольце ад свайго імя і ад імя ўсіх працаўнікоў рэдакцыі кожнаму з Вас пажадаць, каб цуд уваскрасення прывёў да цуду міласэрнасці. Разам са святой сястрой Фаустынай просім у Бога: "Дапамажы мне, Пане, каб маё сэрца было міласэрным, каб я адчувала ўсе цярпенні бліжніх. О, мой Езу, перамяні мяне ў сябе, бо Ты ўсё можаш".

*Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць усіх Вас міласэрнасцю. Вясёлых свят і радаснага Алелюя!*

# АБРАД ВЕЛІКОДНАГА СНЕДАННЯ Ў СЯМ'І

***На Вялікдзень пасля рэзурэкцыйнай святой Імшы сям'я збіраецца ў ўрачыстым сняданкам. Стол накрыты па-святочнаму, аздоблены зялёнымі галінкамі, вербавымі коцікамі, парасткамі пшаніцы, якія сімвалізуюць новае жыццё, атрымане на святым хросце. У цэнтры ставіцца велікодны сямейны пасхал (ім можа быць аздобленая свечка), фігурка велікоднага ягняці і асвечаныя стравы. Снеданне трэба пачаць з супольнай малітвы аб Божым бласлаўленні, аб дарах Святога Духа для папы Францішка, аб ласцы навяртання для няверуючых, аб міры на зямлі, аб суцяшэнні для самотных і тых, хто пакутуе.***



А: Сапраўды Пан Уваскрос! Алелюя!

***Усе: Дзякуем Пану Богу! Алелюя!***

А: Мы з радасцю сабраліся ў сямейным асяроддзі, каб урачыста адзначыць успамін Уваскрасення нашага Пана, Езуса Хрыста. Я жадаю, каб супакой і радасць запанавалі ў нашых сэрцах, каб усе мы сведчылі сённяшняму свету аб уваскрослым Хрысце і паўсюдна абвяшчалі, што Пан сапраўды ўваскрос. Ахопім думкамі і сэрцам усіх нашых сваякоў і сяброў, жывых і памерлых, агорнем увесь свет і будзем прасіць:

***Усе: Ойча наш...***

*У канцы бацька моліцца:*

Божа, у сённяшні дзень Ты перамог смерць і адчыніў нам брамы вечнасці. Дай нам удзельнічаць у перамозе Твайго Сына Езуса Хрыста над грахом, каб мы былі годныя прыняць удзел у Яго вечным жыцці. Які вечна жыве і валадарыць.

***Усе: Амэн.***

# Велікодны кошык

***Што ў яго пакласці? Гэтае пытанне мы штогод задаём сабе перад Вялікай суботай, калі збіраемся ў касцёл, каб асвяціць стравы.***

***У велікодным кошыку павінны быць асноўныя кампаненты, неабходныя для прыгатавання велікоднага сняданку. Гэта Божыя дары, якія прыгадваюць нам аб важных момантах, патрэбных для разважання над мукай і ўваскрасеннем Хрыста. Кожная са страў мае ўласны характэрны сімвал.***

### Дык што неабходна пакласці ў велікодны кошык?

**Велікоднае яйка, пафарбаванае ці распісанае.** Гэта дар, што сімвалізуе новы пачатак, нараджэнне, уваскрасенне, якога вернік чакае ў перыяд Велікодных свят.

**Хлеб** асвячаецца на ўспамін хлеба, які сышоў з неба, гэта знак Езуса. І як даніна памяці таму, што Ён цудоўным чынам накарміў натоўпы людзей, якія слухалі Яго навучанне. Хлеб сімвалізуе Цела Хрыста – хлеб жыцця для хрысціян.

**Соль і перац.** Соль захоўвае стравы ад псавання, а таксама сімвалізуе захаванне чалавека ад духоўнай сапсаванасці, навяртанне і ачышчэнне. Для хрысціян соль сімвалізуе сутнасць жыцця і праўды. Адсюль мы кажам пра "соль зямлі" – так Езус назваў сваіх вучняў, выбраных. Перац сімвалізуе зёлкі, якія раней яўрэі дадавалі ў харасэт (від соусу). Яны рабілі гэта на ўспамін цяжкай, горкай прымусовай працы пры вырабе цэглы ў Егіпце.

**Хрэн** прыгадвае аб перааддленні Хрыстовай мукі горычы. Ён таксама сімвалізуе фізічную сілу і жыццяздольнасць. Змешчаны ў кошыку, ён павінен забяспечыць здароўе і моц, а таксама падтрымліваць эфектыўнасць іншых асвечаных прадуктаў.



***Як павінен выглядаць велікодны кошык?***

*Кошык павінен быць сплецены з вербалозу і высцелены белай сурвэткай. Трэба аздобіць яго самшытам, які з'яўляецца сімвалам радасці і надзеі на ўваскрасенне.*

*Ручку кошыка можна аблесці белай карункавай ці каляровай стужкай.*

**Вяндліна** з'яўляецца сімвалам багацця, дастатку: не толькі матэрыяльнага, але і духоўнага, дзякуючы якому мы можам заключыць поўны запавет з Богам.

**Фігурка велікоднага ягняці,** спечаная з цеста ці зробленая з цукровай пудры. Ягнятка з чырвонай харугвай – гэта сімвал мукі, смерці і ўваскрасення Хрыста. Можна заўважыць падабенства ахвяры з гэтай жывёлы ў Старым Запавеце з той, якую склаў на крыжы Месія. Падкрэсліваецца таксама нявіннасць ягняці і факт яго сляпой паслухмянасці, чым яно павінна прыгадваць Хрыста, які, будучы нявінным, аддае сваё жыццё, бо паслухмяны Айцу.

**Велікодная бабка.** Лепш за ўсё не купленая, а спечаная гаспадыняй. Бабка з'яўляецца сімвалам умення і дасканаласці, да якіх павінен імкнуцца кожны чалавек як у духоўным жыцці, так і ў навакольнай рэчаіснасці.

***Часам элементам асвечанага можа быць таксама:***

- *пасудзіна з вадой, якая з'яўляецца сімвалам Святога Духа;*
- *сыр з авечага, казінага ці каровінага малака.*



**Аляксандр Кашкевіч**
*Біскуп Гродзенскі*



**Юзаф Станеўскі**
*Дапаможны біскуп*

**Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры! Дарагія Дыяцэзіяне!**

У свята Уваскрасення Пана у нашых святынях гучыць радасны спеў “Алелюя!”. З вуснаў і сэрцаў вернікаў плывуць словы старажытнай песні: “Вясёлы дзень для нас настаў!”. Раскалыханыя званы на касцёльных вежах абвяшчаюць усяму свету Добрую Навіну, што Езус Хрыстус сапраўды ўваскрос. Пасля цяжкасцей мукі, пасля таго, як памёр на крыжы і быў пакладзены ў магілу, наш Збаўца ўстаў з мёртвых і яснее бляскам сваёй Боскай хвалы.

Хвалебная перамога Хрыста над смерцю – гэта аснова нашай хрысціянскай надзеі. Гэтую надзею не здольны перамагчы ніякі смутак, неспакой, цярпенні нашага зямнога жыцця. Таму што мы верым: уваскрослы Збаўца жывы і Ён з намі ва ўсе дні, аж но да сканчэння веку. Мы верым, што Ён вядзе нас па дарогах штодзённасці ў тую айчыну, дзе няма смерці, дзе пануе вечная радасць. Таму ва ўсіх выпрабаваннях і перажываннях “мы атрымліваем поўную перамогу праз таго, хто палюбіў нас” (Рым 8, 37).

У моцы і радасці ўваскрослага Хрыста шлю Вам, дарагія Браты і Сёстры, мае сардэчныя пажаданні. Няхай Велікодныя святы будуць благаслаўлёным часам для кожнага з Вас. Няхай у Пасхальнай таямніцы Хрыста новым бляскам заззяе праўда аб Богу, багатым на міласэрнасць, які так “палюбіў свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае” (Ян 3, 16). Няхай гэтая праўда веры напоўніць Вашыя сэрцы радасцю, даверам, супакоем і мужнасцю.

Кожнага з Вас я ахінаю сваёй малітвай, жадаю Божага благаслаўлення, здароўя і шчодрых ласкаў ад уваскрослага Пана.

***Радаснага Алелюя!***

**Хрыстос Уваскрос! Алелюя! Браты і Сёстры!**

Дні непасрэдна перад урачыстасцю Уваскрасення Пана, якія называюца Пасхальным Трыдыумам, пазначаны мукай і смерцю Хрыста. Аднак, калі мы зазірнём глыбіней свайго сэрца, мы заўважым штосьці мацнейшае, чым мука і смерць – Любоў: Любоў Бога Айца да людскога роду і бязмежная любоў Хрыста да чалавека. Першая не пашкадавала адзінага Сына, другая – уласнага жыцця, каб чалавек быў апраўданы і атрымаў у спадчыну вечнае жыццё. Менавіта гэтая любоў надала новы сэнс таксама мукам і смерці чалавека. Гэтая Любоў не ведае межаў і не зважае на адрачэнне і здраду вучняў. Адразу ж пасля свайго ўваскрасення Хрыстос прыходзіць да ўстрывожаных і спалоханых вучняў, каб у чарговы раз прапанаваць ім сваю Любоў, вітаючы іх словамі: “Супакой вам”.

Дарагія Браты і Сёстры! Мы перажываем Юбілейны год Божай міласэрнасці. Папа Францішак прапанаваў яго нам не толькі для таго, каб мы самі зачэрпнулі Божую міласэрнасць, але, перш за ўсё, для таго, каб мы паказалі Божую міласэрнасць свету. Святы Айцец заклікае нас словамі дэвізу гэтага года: “Міласэрныя, як Айцец”. Ён просіць нас, каб устрывожанаму і спалоханаму войнамі і тэрарыстычнымі актамі, прыроднымі катаклізмамі і людской абыякавасцю свету мы прапанавалі ў якасці лякарства ЛЮБОЎ ва ўчынку.

Жадаю усім Вам, каб праз уласныя ўчынкі, адзначаныя велікоднай Любоўю Хрыста, мы зрабілі гэты свет больш Божым і больш людскім.

***Вясёлых, напоўненых радасцю і здароўем свят Уваскрасення Пана!***

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

**Папа Францішак**



*Абмываючы ногі Апосталам, Езус хацеў паказаць, якім чынам Бог дзейнічае ў адносінах да нас, і даць прыклад сваёй “новай запаведзі”, якая тычыцца такой любові да іншых, якой Ён палюбіў нас, гэта значыць – аддаючы жыццё за нас. Ён даў сваё жыццё за нас: таму таксама і мы павінны даваць жыццё за братоў.*

*Любоў – гэта канкрэтнае служэнне, якое мы аказваем адзін аднаму. Служэнне пакорнае, якое здзяйсняецца ў маўчанні і са сціпласцю, згодна з тым, як Езус казаў: “Няхай не ведае твая левая рука, што робіць правіца твая” (Мц 6, 3). Яно патрабуе паставіць на службу дары, якімі Святы Дух нас напоўніў, каб супольнасць магла расці. Акрамя таго, яно выражаецца ў дзяленні матэрыяльнымі дабротамі, каб ніхто не быў у нястачы.*

*Фрагмент надзвычайнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 12.03.2016*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Падобна таму, як недастакова толькі спаць у гаражы, каб стаць аўтамабілем, таксама недастакова толькі хадзіць у касцёл і ў той жа час жыць нязгодна з Божым законам, каб стаць сапраўдным хрысціянінам. Мы ў сваім жыцці часта не выкарыстоўваем дадзенай нам Божай ласкі, каб прыносіць духоўны плён.*

*Міласэрны Езус дае нам час, але яго неабходна выкарыстаць належным чынам. Акрамя часу, Ён дае нам новыя магчымасці, новыя касцёлы, святароў, кансэкраваных асоб, катэхетаў і г.д. Бог не жадае ад нас быць чымсьці, чым мы не з’яўляемся, але жадае, каб мы былі дасканалымі і плённымі хрысціянамі. Ён добра ведае, што многія гады мы не былі такімі, але Ён просіць у свайго Айца даць нам яшчэ адзін год, даць час для выпраўлення нашага жыцця.*

*Фрагмент гаміліі на трэцюю нядзелю Вялікага посту*

**Кс. бп Юрый Касабуцкі**



*Калі мы стараемся дзяліцца дабром з бліжнімі, то яно вяртаецца да нас, таксама як вяртаецца і дрэннае слова ці дрэнныя ўчынкі. Зараз мы перажываем час Вялікага посту – асаблівы час, калі Касцёл заахвочвае зазірнуць у сваё сэрца і спытаць у сябе: “Ці сапраўды мы жывём з Богам? Ці сапраўды нашыя думкі і ўчынкі Божыя?”. Асабліва ў гэты год – Год Божай міласэрнасці, абвешчаны папам Францішкам. Гэта яшчэ адзін заклік асаблівым чынам паглядзець на іншага чалавека – таго, хто жыве, працуе, вучыцца разам з намі, каб праявіць да яго сваю міласэрнасць, прабачыць ягоныя слабасці.*

*Фрагмент гаміліі падчас урачыстай св. Імшы ў мінскай парафіі МБ Ружанцовай*




Працяг з папярэдняга нумара

Традыцыя Касцёла адрознівае дасканалы і менш дасканалы жаль. Дасканалы жаль вынікае з чыстай і бескарыслівай любові да Бога. Грэшнік уяўляе сабе ўсю веліч ню мукі і смерці Хрыста, прынятых з любові да чалавека. Гледзячы на крыж, мы можам аднесці на свой рахунак словы, якія павінен быў пачуць Блез Паскаль, молячыся ля ног укрыжаванага Збаўцы: “І пра цябе я думаў у хвіліны маёй агоніі. І за цябе праліў не адну кроплю крыві... Я палюбіў цябе больш, чым ты – свае правіны”. Таму ў акце дасканалага жалю чалавек забываецца пра сябе і сваю выгаду, ён глыбока перажывае крыўду і зняважэнне, якія прычыніў Богу. Акт дасканалага жалю сцірае цяжкія грахі ў момант смерці, нават без споведзі, калі няма магчымасці атрымаць святарскае адпушчэнне грахоў. Трэба імкнуцца да таго, каб дух глыбокага пакаяння і тым самым дасканалага жалю быў пастаянным актам душы, які б акрэсліваў яе адносіны да Бога. Гэтае намаганне павінна заключацца ў нястомнай малітве, пакорнаці і супрацоўніцтве з Божай ласкай. Тады чалавек пазбываецца самалюбства і гонару і ахвотна прызнае ўсе правіны. Чым больш чалавек любіць Бога, тым больш ён шкадуе аб сваіх грахах і няввернасці.

Трэба імкнуцца да таго, каб часта абуджаць у сабе акт дасканалага жалю. Мы павінны рабіць гэта заўсёды падчас вячэрняй малітвы, перад тым, як ісці адпачываць. Прасцей за ўсё акт жалю выражаецца ў вядомых нам словах малітвы: “Шкадую за злосць маю, бо цаню любоў Тваю. Май літасць да грэшнага мяне, бліжнім прабачаю дзеля Цябе”. Гэта не можа быць толькі механічнае адгаворванне пададзеных вышэй слоў без абуджэння ўнутранага акту жалю. Каб нарадзіўся дасканалы жаль, трэба асэнсаваць сказанае і зрабіць яго зместам свайго духоўнага жыцця.

Менш дасканалы (недасканалы) жаль заключаецца ў тым, што чалавек шкадуе за свае грахі толькі таму, што, абразіўшы Бога, разарваўшы з Ім кантакт, наклікаў на сябе часовыя кары і вечнае асуджэнне (параўн. ККК 1453). Такім чынам, гэта так званы жаль ад страху. Ён з’яўляецца пэўным мінімумам, абавязковым для сапраўднасці споведзі.

Без жалю за грахі споведзь не будзе сапраўднай. Таму вернік павінен узбудзіць жаль непасрэдна перад споведдзю, а таксама пацвердзіць яго падчас удзялення адпушчэння грахоў, стоячы на каленях і ўдараючы сябе ў грудзі або на словах абяцаючы перад спаведнікам, што шчыра просіць у Бога прабачэння. Жаль за грахі павінен уключаць у сябе агіду да мінулых грахоў і жаданне сапраўды пазбягаць іх у будучыні. Матыў жалю павінен быць звышнатуральны, адносіцца да Божай любові. Недастаткова жалю з-за страты нейкай матэрыяльнай выгады ці цялеснай асалоды. Ён таксама павінен ахопліваць усе грахі.

Дарагі сябар, можа, ты згубіўся і страціў сэнс жыцця, можа, адышоў ад Бога і ўжо даўно не быў у споведзі, заўважаеш, як сёння складана спраўвіцца з самім сабой, з іншымі... Міласэрны Айцец увесь час чакае цябе, за цябе на крыжы памёр Хрыстос, які збавіў цябе сваёй найкаштоўнейшай крывёю. Не адкладвай! Ужо сёння паяднайся з Богам! Памятай: **“Калі будуць грахі вашыя, як барвовае, – як снег адбялю; калі будуць чырвоныя, як пурпура, – як воўну адбялю”**(Іс 1, 18). Я штодзень малюся за цябе.



◆ Ватыканскі Дзяржаўны сакратарыят змяніў дыпламатычны пратакол адносна прыняцця Святым Айцом кіраўнікоў дзяржаў. Цяпер каталіцкія кіраўнікі дзяржаў, якія жывуць у нерэгулярных сужэнскіх саюзах, змогуць афіцыйна сустрэцца з Папам разам са сваім партнёрам, удзельнічаючы ў афіцыйнай фотасесіі. Да гэтага часу партнёр ці партнёрка прэзідэнта прымаліся асобна. Папа Францішак заўважыў, што пары, якія жывуць у новых саюзах, павінны быць зноў з'яднаны з Касцёлам.

◆ У рэкалекцыйным цэнтры айцоў паўлінаў, размешчаным у 30 кіламетрах ад Рыма, адбыліся рэкалекцыі для Рымскай Курыі, у якіх таксама прыняў удзел Святы Айцец. Духоўныя практыкаванні па тэме "Непасрэдныя евангельскія пытанні" праводзіліся пад кіраўніцтвам кс. Эрмэса Ронкі з Ордэна Слуг Марыі. На працягу 90 гадоў рэкалекцыі праходзілі ў Ватыкане. З пачаткам свайго пантыфікату Папа Францішак прыняў рашэнне здзяйсняць духоўнае аднаўленне ў адасобленым і ціхім месцы, далей ад месца звыклага пражывання і штодзённай працы.

◆ Папа Францішак у трэці раз намінаваны на Нобелеўскую прэмію. Паводле завяшчання Альфрэда Нобеля, прэмія міру ўручаецца таму, хто дасягнуў найбольшых поспехаў або зрабіў больш за іншых "у справе яднання народаў і скарачэння колькасці дзеючых войскаў, а таксама за правядзенне кангрэсаў і прыцягненне да іх увагі". За ўсю гісторыю Нобелеўская прэмія міру ніводнага разу не была прысуджана Папе Рымскаму. У 1979 годзе яе атрымала Маці Тэрэза, а ў 1996 годзе – біскуп Карлуш Белу.

◆ Катэхуменат – адна з галоўных тэм Еўрапейскай сустрэчы нацыянальных дэлегатаў па справах катэхезы, якая скончылася ў Рабаце на Мальце. Падчас яе ўвага была звернута на занатаванае ў некаторых краінах павелічэнне колькасці катэхуменаў, якія рыхтуюцца да прыняцця сакраманту хросту, што звязана са з'явай міграцыі і пераходам у каталіцызм. "У гэтых выпадках трэба ўмець адрозніваць сапраўдную дарогу веры ад законнага жадання інтэграцыі ці проста ад надзеі, што прыняцце хрысціянства аблегчыць атрыманне дакументаў ці статусу бежанца", – чытаем у заключным камунікаце з Еўрапейскай сустрэчы аб катэхезе.

◆ Айцы-дамініканцы з семінарыі ў Вашынгтоне стварылі камп'ютарную гульню "Passiontide: The Game" у стылі відэагульняў пачатку 1990-х гадоў. Правілы простыя: кіруй сваім "дамініканцам" так, каб яму ўдалося сабраць больш свечак і асобнікаў "Сумы тэалогіі" св. Тамаша. У гульні трэба пазбягаць розных перашкод, а таксама сцерагчыся сустрэчы з ерэтыкам. У канцы герой дабіраецца да касцёла. Гульню можна знайсці ў інтэрнэце па адрасе passiontidedc.appspot.com.

credo-ua.org; niedziela.pl; pch24.pl

Ангеліна Пакачайла

**Вялікі тыдзень прысвечаны ўспамінам апошніх дзён зямнога жыцця Езуса Хрыста. У гэтыя дні Евангелле апавядае пра Апошнюю вячэру з вучнямі, здраду, суд, пакуты, распяцце, крыжовую смерць, пахаванне і ўваскрасенне Божага Сына.**



## ВЯЛІКІ ПАНЯДЗЕЛАК, АЎТОРАК І СЕРАДА

- *Сястра ўваскрослага Лазара Марыя мазала ногі Езуса мірам.*
- *Хрыстос прыйшоў у Іерузалемскі храм і ў апошні раз прапаведаваў перад народам.*
- *Выкрываў кніжнікаў і фарысеяў, гутарыў і казаў прыпавесцямі.*
- *Фарысеі шукалі нагоду, каб паскардзіцца на Езуса рымскім уладам альбо зганьбаваць Яго ў вачах юдэяў.*
- *Іуда Іскарыёт здрадзіў Настаўніку і выдаў Яго на смерць.*
- *Грэшніца праліла міра на галаву Збаўцеля.*
- *Хрыстос сказаў, што гатовы да пахавання.*

У гэтыя дні усім, хто яшчэ не прыступіў да **сакраманту споведзі,** варта зрабіць глыбокі рахунак сумлення і заняць чаргу ў канфесіянал. Толькі з чыстым сэрцам можна спаўна перажыць літургію **Пасхальнага Трыдыуму.**

У гэтыя дні літургія здзяйсняецца звычайным парадкам. У Вялікі панядзелак на службе ўспамінаюць Марыю, якая прыслугоўвала Езусу. Таксама ўзгадваюць пра выбранніка Божага, які прынясе людзям Правасуддзе. У Вялікі аўторак вернікі ўспамінаюць, як Езус навучаў у ерузалемскім храме, і народ лічыў Яго прарокам. Вялікая серада – дзень, калі Хрыста выдалі на пакуты і смерць.

*"Я прыйшоў не судзіць свет, а збавіць свет"* *(Ян 12, 47).*

# Пасхальны Трыдыум

*У Вялікі чацвер заканчваецца перыяд Вялікага посту і распачынаецца Святы Пасхальны Трыдыум. Ён урачыста адзначаецца на працягу трох дзён – Вялікага чацвярга, Вялікай пятніцы і Вялікай суботы. Гэта тры этапы адзінай збаўчай падзеі Вялікадня Хрыста. Завяршаецца Пасхальны Трыдыум у Велікодную нядзелю.*

## ВЯЛІКІ ЧАЦВЕР

- *Падчас Апошняй вячэры Хрыстос абмыў ногі Апосталам.*
- *Ахвяраваў Айцу сваё Цела і Кроў пад постацямі хлеба і віна.*
- *Сказаў сваім вучням, што адзін з іх здрадзіць Яму.*
- *Прадказаў трайное адрачэнне Пятра.*
- *Маліўся ў Гефсіманскім садзе.*
- *Быў прададзены Іудам Іскарыётам стражнікам за 30 сярэбранікаў.*

Раніцай Вялікага чацвярга ў катэдральных касцёлах адпраўляецца св. Імша Хрызма, падчас якой блаславляецца алей. Яе цэлебруюць біскупы і прэзбітэры дыяцэзіі. Святары абнаўляюць абяцанні, якія давалі пры пасвячэнні. Увечары цэлебруецца св. Імша ва ўспамін Апошняй вячэры. На ёй заключны раз перад Пасхальнай Вігіліяй гучаць званы. Яны змаўкаюць пасля гімна "Хвала на вышынях Богу". На гэтай св. Імшы святары здзяйсняюць абрад абмывання ног парафіянам. Гэта робіцца ў знак пакоры і памяці аб тым, як Езус абмываў ногі сваім вучням. Працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам пераносіць Цела і Кроў Хрыста з галоўнага табернакулюма ў бакавы, гэтак званую "вязніцу". Гэта сімвалічна адлюстроўвае арышт і заключэнне Езуса пад варту. Пасля вернікі некаторы час моляцца ў цішыні. Гасяцца лампады і свяцільні, не гучаць музычныя інструменты. З алтара здымаюцца ўсе пакровы, а крыжы завешваюцца тканінай, што сімвалізуе знянцэ вопраткі з Езуса, Яго абсалютную неабароненасць.

*"Перад святам Пасхі Езус, ведаючы, што прыйшла Яго ная гадзіна перайсці з гэтага свету да Айца, палюбіўшы сваіх у свеце, дарэшты палюбіў іх"* *(Ян 13, 1).*





У **Вялікі чацвер** былі ўстаноўлены сакраманты **Эўхарыстыі і святарства.** Заахвочваем да малітвы **за святароў і ў інтэнцыі новых пакліканняў.** Адкрываемся на сакрамант Эўхарыстыі як на хлеб жыцця, які неабходны чалавеку для выратавання душы. Нанова перажываем прыняцце св. Камуніі, якая дае магчымасць з'яднацца з Усявышнім. Па ўзору Хрыста, які прынізіў сябе, імкнёмся старанна служыць у братняй любові бліжняму.

# ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА

- *Схоплены Езус паўстаў перад судом.*
- *Быў выданы Пілатам на смерць.*
- *Цярпеў бічаванне, здзекі і насмешкі.*
- *Прыняў на сябе грахі свету.*
- *Памёр на крыжы.*
- *Быў пахаваны.*

**Вялікая пятніца –** дзень строгага посту. Усе падрыхтоўкі да свята Вялікадня трэба скончыць у чацвер, каб у пятніцу нішто не адцягвала ад малітваў і службаў. У гэты дзень пачынаецца Навэнна да Божай міласэрнасці, якая працягваецца дзевяць дзён. Разважаем пра таямніцу адкуплення.



У Вялікую пятніцу Эўхарыстыя не здзяйсняецца. Св. Імша не цэлебруецца ў знак вялікай пашаны да ахвяры Езуса Хрыста за грахі ўсяго свету. Удзень адбываецца набажэнства Крыжовага шляху, вечарам – набажэнства Мукі Пана. Святар ва ўборы чырвонага колеру падыходзіць да алтара і распасціраецца перад ім крыжам. Некаторы час вернікі моляцца ў поўнай цішыні. Пасля адбываецца чытанне евангельскага фрагмента ад развітальнай размовы Хрыста з вучнямі пасля Апошняй вячэры да Яго пахавання. Літургія слова завяршаецца ўсеагульнай малітвай. Затым адбываецца адарацыя Крыжа. Духавенства і ўсе верныя па чарзе падыходзяць да Крыжа і цалуюць яго, аддаючы пашану Збавіцелю чалавецтва. Па заканчэнні пакланення на алтар укладаецца покрыва, карпарал і Імшал. Найсвяцейшы Сакрамант, асвечаны на службе Вялікага чацвярга, у маўчанні пераносіцца на алтар. Адбываецца прычашчэнне. А затым здзяйсняецца працэсія да Гроба Пана, якая сімвалізуе зняцце з Крыжа Цела Збавіцеля і Яго пахаванне. Найсвяцейшы Сакрамант пераносіцца з галоўнага табернакулюма ў бакавы. Манстранцыя закрываецца белым вэлюмам.

*"Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што робяць"*
(Лк 23, 34).

# ВЯЛІКАЯ СУБОТА

- *Езус знаходзіўся ў магіле.*
- *Зышоў у бездань.*



**У Вялікую суботу** Касцёл паглыблены ў малітву пры Гробе Пана. У дзень "маўчання" і "адзіноты" шукаем суцяшэння ў крыніцы надзеі. Разважаем пра муку, смерць Езуса і Яго сыходжанне ў бездань. Задумваемся над плёнам саракадзённага посту: які ён быў, мой крыжовы шлях? Ці ішоў я за Хрыстом, нягледзячы на ўсе цяжкасці і выпрабаванні? У гэты дзень абавязкова прымаем удзел у літургіі Пасхальнай вігіліі.

У Вялікую суботу літургія не здзяйсняецца. У гэты дзень вернікі моляцца ў індывідуальным парадку перад Найсвяцейшым Сакрамантам, які сімвалізуе Гроб Пана. Распрасцёртая плашчаніца сведчыць пра раны Хрыста, пра той кароткі, але шматзначны прамежак часу, падчас якога Езус знаходзіўся пад уладай смерці. Часам у касцёлах публічна чытаецца Літургія гадзін. Увечары пасля пакланення адбываецца ўрачыстае велікоднае набажэнства. Перад яго пачаткам у святыні гасіцца ўсё святло. Таксама ў гэты дзень адбываецца асвячэнне велікодная ежы.

*"На другі дзень, што быў пасля Прыгатавання, сабраліся першасвятары і фарысеі ў Пілата і сказалі: «Пане, мы ўспомнілі, што ашуканец гэты, калі быў яшчэ жывы, сказаў: Праз тры дні ўваскрэсну»"*
(Мц 27, 62–63).

# ПАСХАЛЬНАЯ ВІГІЛІЯ І ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

- *Хрыстос уваскрос!*
- *Анёл перадаў Добрую Вестку жанчынам.*
- *Езус наказаў ім падзяліцца радасцю з Апосталамі.*
- *Вучні адправіліся ў Галілею, на гару, куды іх паклікаў Езус.*



Усе абрады Пасхальнай вігіліі адбываюцца ноччу з суботы на нядзелю. Вігілія Вялікадня пачынаецца з літургіі святла. Перад касцёлам разводзіцца вогнішча, ад якога святар запальвае пасхал і ўносіць яго ў святыню. Ад пасхала вернікі запальваюць свечкі. Іх святло сімвалізуе хрысціянскае вучэнне. Заканчваецца літургія святла "Абвяшчэннем Пасхі", старажытным хрысціянскім гімнам.

Падчас літургіі слова чытаецца не тры, як у звычайныя дні, а дзевяць біблейскіх чытанняў. Яны паказваюць чароўную задуму ў дачыненні да чалавецтва ад моманту стварэння чалавека да прышэсця на зямлю Сына Божага. Пасля спяваецца ўрачысты гімн "Gloria". З гэтага моманту набажэнства суправаджаецца гукамі званоў і музычных інструментаў. Перад евангельскімі чытаннямі гучыць урачыстае "Алелюя".

Пасля гаміліі адбываецца літургія хросту, падчас якой спяваецца Літанія да ўсіх святых. Святар благаслаўляе ваду для хросту, тройчы акунаючы ў ёй пасхал.

У нядзелю перад ранішняй св. Імшой адбываецца эўхарыстычная працэсія. Яна пачынаецца ля Гроба Пана, дзе святар спевам абвяшчае Уваскрасенне Хрыста. Цырымонію заканчвае ўрачыстая рэзурэкцыйная працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам, якая сімвалізуе трыумф уваскрослага Езуса. Па вяртанні ў касцёл спяваецца гімн "Хвала на вышынях". Пасля ўдзялення вернікам св. Камуніі гучыць урачысты гімн "Цябе, Бога, праслаўляем". Ад гэтай нядзелі крыж ля алтара аздоблены чырвонай стулай. Напрыканцы набажэнства адбываецца асвячэнне велікоднай ежы.

*"Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку"*
(Мц 28, 20).

**Вялікдзень –** самае важнае хрысціянскае свята. Узяўшы на сябе віну і пакаранне за грахі свету, Езус прымірыў чалавека з Богам і адкрыў чалавецтву вароты ў рай. Цяпер кожны, хто верыць ва ўваскрасенне Збавіцеля, вызваляецца ад страху смерці, і калі аддае Яму сваё жыццё, то атрымлівае жыццё вечнае. Разважаем пра гэта ў светлую Хрыстовую нядзелю. На Пасхальную вігілію не забываемся прынесці з сабой у касцёл свечкі.

## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ




### *У Мексіцы памёр апошні Крыстэрос*

***Апошні Крыстэрос, адзін з тых, хто змагаўся з пераследуючым Касцёл рэжымам у 20-х і 30-х гадах ХХ стагоддзя, памёр ва ўзросце 103 гады.***

*Магілкі, дзе быў пахаваны апошні салдат Крыстэрос, знаходзіцца побач з сядзібай арганізацыі "Нацыянальная гвардыя Крыстэрос". Яна ставіць перад сабой мэту захавання памяці аб хрысціянскіх паўстанцах. Бунт выбухнуў у 1926 годзе, пасля таго, як мексіканскі прэзідэнт Эліяс Кальес увёў антыкаталіцкае заканадаўства. Яно пазбаўляла святароў права голасу і нават права на нармальны судовы працэс. Кожны каталік мог быць арыштаваны за абвяшчэнне сваёй веры, апрананне духоўнай вопраткі ці сустрэчу на малітве па-за будынкам касцёла.*




### *Звон Міласэрнасці для Сусветных дзён моладзі*

***Звон Міласэрнасці, які быў адліты польскім Пшэмыслі, размесцяць на кракаўскім "Campus Misericordiae", дзе пройдуць галоўныя сустрэчы з папам Францішкам падчас Сусветных дзён моладзі.***

*"Звон павінен быць галоўным сімвалам сустрэчы Францішка з маладымі людзьмі з усяго свету. Мы выбралі 500-кілаграмовы звон, бо частата яго гуку аналагічна той, на якой мы размаўляем і спяваем, што робіць тон вельмі прыязным для чалавечага вуха", – адзначыў Пётр Альшэўскі, уладальнік студыі, дзе праходзіла адліўка.*

*На Звоне Міласэрнасці будуць змешчаны гербы Францішка, Яна Паўла ІІ, кардынала Станіслава Дзівіша, арцыбіскупа Кракаўскага, і сімвал Сусветных дзён моладзі.*




### *У сядле да Францішка*

***З санктуарыя Божай міласэрнасці ў Лагеўніках вырушыла конная пілігрымка, якая па Дарозе міласэрнасці дабярэцца да плошчы св. Пятра.***

*Кожны з наезнікаў вязе ў сэрцы ўласную інтэнцыю, але ўсе згодна прызнаюць, што самымі важнымі ў малітвах будуць просьбы аб здароўі для сябе, сваіх сем'яў і коней, якія яны ўспрымаюць як членаў сям'і і праца якіх з'яўляецца, шчыра кажучы, крыніцай даходу.*

*Падчас урачыстасці ўсіх наезнікаў і коней благаславіў кард. Станіслаў Дзівіш, які пажадаў ім добрай і бяспечнай дарогі. Перад распачаццем пілігрымкі быў зачытаны фрагмент буллы Папы, якая абвяшчае Год міласэрнасці, і кожны прайшоў праз Дзверы міласэрнасці.*

***Кінга Красіцкая***

## Дапамога – у Богу

***Старэйшыя міністранты з парафіі Святой Сям'і ў Лідзе правялі чарговае набажэнства Крыжовага шляху. Прысутныя маглі перажыць гэты духоўны вечар з усведамленнем таго, што Езус памёр таксама і за іх грахі.***

Тэмай Крыжовага шляху была міласэрнасць, якой прысвечаны бягучы літургічны год. У сваіх разважаннях міністранты казалі аб важнасці шчодрасці, таму што, дзелячы свой хлеб з адным чалавекам, мы ўжо змяняем свет. Як было адзначана, нам вельмі часта не хапае спачування да людзей, якія сапраўды маюць патрэбу ў дапамозе. Мы павінны маліцца за іх, таму што Бог ніколі не пакіне чалавека ў цяжкім становішчы.



Хлопцы з літургічнай службы алтара разважалі таксама на тэму адносін у сям'і. У цяперашні час ёсць шмат няшчасных сем'яў, якія не хочуць прымаць дар Божы – пасланае ім дзіця. Такія сем'і таксама маюць патрэбу ў Богу і ў Яго ласках.

## Айцы піяры са Шчучына зладзілі адпачынак для моладзі

***У інтэграцыйным выездзе прынялі ўдзел хлопцы з літургічнай службы алтара і дзяўчаты з парафіяльнага моладзевага хору "Calasanz" з парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне.***

7 сакавіка адбылася сустрэча міністрантаў шчучынскай парафіі і гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. Хлопцы ўдзельнічалі ў сумеснай святой Імшы, якую ўзначаліў а. Эдуард Пяцельчыц CSsR. А днём пазней, у дзень малітвы за ўсіх жанчын, 8 сакавіка, айцы піяры падрыхтавалі адмысловы выезд і для дзяўчат з парафіяльнага хору. Падчас паездкі моладзь не толькі сустрэлася на



малітве, але і змагла пабавіць час, наведаўшы каток, боўлінг і кіно ў 5D.

## Медработнікі Ліды пакланіліся Маці Божай Вастрабрамскай

***8 сакавіка група медыцынскіх работнікаў Лідскай ЦРБ і іншых службаў горада і раёна разам з капеланам кс. Юрыем Бяганскім здзейсніла пілігрымку ў санктуарый Маці Божай Вастрабрамскай у Вільню.***

Ля цудатворнага абраза адбылася святая Імша за лідскіх медыкаў на чале з галоўным урачом Генрыхам Эйсмантам ў інтэнцыі іх здароўя, міласэрнасці, цярплівасці да пацыентаў, сяброўства і салідарнасці ў калектыве.

Акрамя наведвання галоўнай святыні Вільні, удзельнікі пілігрымкі пабывалі ў іншых храмах: катэдральным касцёле,



дзе атрымалі поўны адпуст, а таксама ў касцёле Божай Міласэрнасці, адчыненым на працягу сутак.

## У Лідзе прайшлі духоўныя практыкаванні для юнакоў

***Спатканне, якое адбылося ў манаскім доме айцоў піяраў у парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Лідзе, было прысвечана добрай споведзі.***

У сустрэчы, якую праводзіў а. Аляксандр Махнач SP, піярскі душпастар паклікання у Беларусі, прымалі ўдзел 14 юнакоў з піярскіх парафій са Шчучына і з Ліды-Індустрыяльнага. У межах духоўных практыкаванняў у час Вялікага посту хлопцаў чакалі супольная малітва, разважанне над Божым словам, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, споведзь, Эўхарыстыя, тэматычныя сустрэчы, размовы са святаром.

У гэтыя два дні юнакі мелі магчымасць адчуць атмасферу малітвы, бліжэй



пазнаёміцца з жыццём ордэна піяраў, харызмай якога з'яўляецца выхаванне і навучанне дзяцей і моладзі.

## У Шчучыне мужчыны правялі Крыжовы шлях

***Падчас набажэнства Крыжовага шляху ў парафіі св. Тэрэзы ў Шчучыне, мужчыны ад імя ўсіх мужоў і бацькоў маліліся за сваіх жонак і дзяцей, прасілі аб умацаванні павагі, веры і любові ў сваім сямейным асяроддзі.***

Пасля кожнай стацыі прысутныя прасілі Бога за тых бацькоў і мужоў, якія згубіліся ў жыцці, трапілі ў грэх, п'юць, пакінулі свае сем'і, неадказныя.

На заканчэнне Крыжовага шляху мужчыны аддалі сябе ў апеку святому Юзафу, мужу Найсвяцейшай Панны Марыі і апекуну Езуса, просячы яго дапамагчы ім кожны дзень быць добрым



бацькам для сваіх дзяцей і добрым мужам – для жонкі.

## Семінарысты наведалі дзіцячы дом-інтэрнат у Галавічполлі

***Навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі на чале з прэфектам кс. Андрэем Лішко наведалі сваіх даўніх сяброў. Разам яны разважалі над значэннем падзей, якія адбываліся ў час мукі і смерці Хрыста.***

Падчас сустрэчы семінарысты падзяліліся сведчаннем уласнага духоўнага перажывання велікапоснага перыяду, паспрабавалі накіраваць позірк дзяцей на набліжэнне самай вялікай і неспасцігальнай таямніцы ў гісторыі чалавецтва – Уваскрасення Езуса Хрыста.

Уражанні, якія атрымалі госці падчас сумеснай размовы і разважанняў з дзецьмі, напэўна, паспрыяюць іх



духоўнаму станаўленню на шляху да служэння самым бедным і пакінутым.

## У Смаргоні абмеркавалі пытанні выхавання моладзі

***План працы і асноўныя накірункі дзейнасці Салезіянскай сям'і ў Беларусі на наступныя тры гады былі распрацаваны падчас сустрэчы прадстаўнікоў усіх яе галін.***

Сустрэча, якая адбылася ў Смаргоні, стала першым крокам на шляху стварэння Рады салезіянскіх араторыяў Беларусі. Яе было вырашана заснаваць у ходзе візітацыі Рэгіянальнага настаяцеля. Таксама падчас сустрэчы святары, сёстры, салезіяне-супрацоўнікі і кандыдаты, аніматары і былыя салезіянскія выхаванцы абмеркавалі план дзейнасці і рэалізацыі салезіянскай харызмы ў краіне і на месцах. Распрацаваны дакумент пазней будзе зацверджаны на



ўзроўні дэлегатуры і стане абавязковым для выканання. Звычайна падобнае планаванне праводзіцца святары. У такім шырокім складзе гэтая праца выконвалася ўпершыню.

## У Ваўкавыску распачалася перэгрынацыя духоўных сімвалаў СДМ

***12 сакавіка моладзь Ваўкавыскага дэканата афіцыйна пачала падрыхтоўку да ўдзелу ў Сусветных днях моладзі, якія пройдуць у ліпені ў Кракаве.***

У гэты дзень душпастар моладзі Гродзенскай дыяцэзіі і каардынатар СДМ у Беларусі кс. Антоній Грэмза перадаў маладым вернікам мініяцюры духоўных сімвалаў Сусветных дзён моладзі – крыжа і абраза Маці Божай "Salus Populi Romani".

Ксёндз Антоній звярнуў увагу, што такія сустрэчы фармуюць светапогляд маладых людзей, дапамагаючы ім убачыць для сябе свет, людзей, а таксама скарэктаваць сваё мысленне і дзейнасць. Ка-



ардынатар СДМ у Беларусі заахвоціў прысутных адказаць на запрашэнне папы Францішка, які прагне сабраць вакол алтара моладзь з усяго свету.

## "Да Езуса з ксяндзом Боско"

***Праект пад такой назвай прайшоў у дзятлаўскім араторыі імя блаславёных мучанікаў з Познані. У яго межах 11 сакавіка для дзяцей і моладзі была арганізавана сустрэча "Крыж цярпення, або крыж – крыніца шчасця".***

Удзельнікам сустрэчы было прапанавана паразважаць над пытаннямі: "Што такое крыж?", "Чым з'яўляецца крыж у маім жыцці?". У размове з прысутнымі а. Здзіслаў Пікула SDB падкрэсліў: "Езус і Яго Крыж з'яўляюцца адзінай дапамогай для беднага і грэшнага чалавека. Крыж Езуса – гэта самы вялікі скарб у жыцці кожнага з нас, які не трэба шукаць, а дастаткова толькі з падзякай прыняць яго".



Працягам рэалізацыі праекта "Да Езуса з ксяндзом Боско" стаў тэматычны вечар "Кансэкраваная асоба".

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Якую з велікапосных практык Вы больш захоўваеце ў сваім жыцці?*




*Перыяд Вялікага посту падыходзіць да канца. Чарговае апытанне дае нам шмат інфармацыі адносна таго, як вернікі перажываюць гэты час. Большасць рэспандэнтаў выказалася, што ў перыяд Вялікага посту стараецца па меры магчымасцей выконваць такія практыкі як пост, малітва і міласціна. Іх выкананне дапамагае кожнаму з нас лепш перажыць гэты час.*

***Вынікі чарговага апытання каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Вынікі апытання з'яўляюцца выдатным сведчаннем таго, як нашы вернікі перажываюць гэты час. Перыяд Вялікага посту, як можна заўважыць сярод нашых людзей, безумоўна становіцца часам малітвы, міласціны і посту. Людзі збліжаюцца з Богам, бачаць, як менавіта сёння ім гэтага не хапае. Час, у які мы жывём, нялёгкі, таму толькі разам з Богам мы можам разлічваць на лепшае жыццё. Перыяд Вялікага посту становіцца цудоўным часам нашага жыцця з укрыжаваным Хрыстом. Ад крыжа праз малітву, пост і міласціну мы накіроўваемся да Уваскрасення. Хацелася б толькі звярнуць увагу на адзін момант: час пасля свят не павінен змарнаваць тое, што мы цяпер перажываем у сваіх сэрцах. Будзьма заўсёды вернымі Богу!*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**21 сакавіка 1964 г.** – кс. Юліян Бароўка, *проб. Рэпля;*
**22 сакавіка 1972 г.** – кс. Павел Беганьскі, *проб. Суботнікі;*
**23 сакавіка 2005 г.** – кс. прэл. Казімір Шаняўскі, *проб. Радунь;*
**23 сакавіка 2009 г.** – кс. кан. Уладзіслаў Мяшчаньскі, *душп. Сапоцкін;*
**26 сакавіка 1942 г.** – кс. Ян Храбоншч, *проб. Капцёўка;*
**26 сакавіка 1997 г.** – а. Францішак Кракоўскі CSsR, *проб. Макараўцы;*
**30 сакавіка 1964 г.** – кс. Станіслаў Сарока, *проб. Эйсмантьі Вялікія;*
**31 сакавіка 1964 г.** – кс. Юліян Бароўка, *проб. Рэпля;*
**1 красавіка 1946 г.** – кс. Юзаф Савіцкі, *проб. Дзятлава.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем шмат сіл, цярплівасці, безупыннай надзеі, нязгаснага запалу да працы, а ў першую чаргу – шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста. Радаснага Вялікадня!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін, Дня святара і Велікодных свят жадаем шмат здароўя і шчодрых Божых ласкаў. Няхай дары ўваскрослага Хрыста – супакой, радасць і надзея – напоўняць Вашае сэрца. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Велікодных свят жадаю благаслаўлення ўваскрослага Хрыста, моцы Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і прыгожага плёну на Божай ніве.

*С. Ірына Златкоўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Дапаможніц Чысцовым Душам*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін, Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем шчодрых дароў нашага Пана, Езуса Хрыста, шмат радасці, якая плыве з гэтых свят, а таксама супакою, надзеі і сілы ў вядзенні люду да Бога. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Мама з сям'ёй*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

ў Дзень імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: Божай моцы, суцяшэння ў цяжкіх хвілінах, цярплівасці, каб вытрымаць нягоды гэтага свету, а таксама нястомнага запалу на абраным шляху служэння Богу і людзям.

*Удзячныя і памятаючыя "Маргарытка" і вернікі з пар. Бенякoні*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды цудоўнай урачыстасці – Імянін – перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай св. Заступнік – Апякун Божага Сына – выпрошвае ў Нябеснага Айца ўсе ласкі і вядзе па дарозе даверу, мужнасці, пакорнасці і святасці, па якой ён сам пайшоў.

*З дарам малітвы члены Апостальства малітвы за святароў "Маргарытка" з пар. Ліда-Фара*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шчасця, цярплівасці ў святарскай працы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і св. Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажыць кожны дзень. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.

*З памяццю ў малітве Яніна і Рышард Станеўскія з усёй сям'ёй*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды надыходзячых свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус адорвае Вас усімі ласкамі, бласлаўленнем і здароўем на доўгія гады, а Маці Божая ахінае сваёй апекай і спадарожнічае на святарскім шляху.

*З малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу і Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму, паважаным Ксяндзам Пробашчу Пятру Кубелю, Вінцэнту Лісоўскаму, Станіславу Пацыну і ўсім Святарам Лідскага дэканата**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, святла Святога Духа, чулых людзей побач. Няхай уваскрослы Хрыстос, Найвышэйшы Святар, адорыць Вас сваёй міласэрнасцю і будзе крыніцай любові і супакою ў Вашым штодзённым жыцці. Ад усяго сэрца дзякуем Вам, пастырам нашых душ, за працу, якую Вы кожны дзень ускладаеце на алтар, ведучы нас да Бога. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Удзячныя парафіяне з Крупава*

**Паважанаму Ксяндзу Рэдактару Паўлу Салабуду, а таксама паважаным Ксяндзам Яраславу Грынашкевічу, Валерыю Быкоўскаму, Алегу Канановічу і Яну Раманоўскаму**

з нагоды Велікодных свят і Дня святара ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў і бласлаўлення ад уваскрослага Хрыста. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены верай, надзеяй і любоўю, а сэрца заўсёды цешыцца з Божай прысутнасці. Радаснага Алелюя!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Збігневу Драгулу**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем радасці, душэўнага супакою, моцнага здароўя, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і людской добразычлівасці. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Старых Васілішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юзафу Ганьчыцу**

з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, сілы, радасці, Божага бласлаўлення і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень душпастарскай паслугі. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем здароўя, радасных дзён жыцця і душэўнага супакою. Няхай Уваскрослы Хрыстос адорыць Вас ласкай і супакоем, Маці Божая штодзённа Вамі апекуецца, а Святы Дух асвятляе Ваш шлях і заўсёды будзе побач. Вясёлага Вялікадня!

*Удзячныя парафіяне з касцёла Звеставання НПМ у в. Міжэрычы*

**Паважаным Ксяндзам Яну Гавецкаму, Віталію Цыбульскаму і Алегу Яновічу, а таксама шаноўнай Сястры Ірэне**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай добры Бог адорыць Вас усімі ласкамі, а міласэрная Маці Божая дапамагае ў душпастарскай працы. Дзякуем Вам за паслугу ў нашай парафіі, навуку і абвяшчэнне Божага слова.

*Удзячныя парафіяне з касц. свсв. Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважаным Ксяндзам Віталію Цыбульскаму і Алегу Яновічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, радасці і Божай апекі. Няхай Бог Вас бласлаўляе і дапамагае ў штодзённай душпастарскай працы. Дзякуем Вам за малітву і абвяшчэнне Божага слова.

*Удзячныя парафіяне з капл. МБ Вастрабрамскай у Урцішках*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят шчыра жадаем моцнага здароўя, радасці, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Ваша сэрца будзе перапоўнена Божым супакоем, любоўю і даверам. Мы ўдзячны Богу за Ваша добрае сэрца, прыклад і малітву. Стойкасці Вам і цярплівасці ў выкананні святарскай паслугі. Хрыстос Уваскрос!

*Парафіяльная супольнасць з касц. свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Граўжышках*

**Паважаным Ксяндзам Юзафу Багдзевічу і Дзмітрыю Папенюку, а таксама шаноўным Сёстрам**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, душэўнага супакою, бязмежнай радасці, сіл на кожны дзень паслугі, людской добразычлівасці. Няхай святло ўваскрослага Хрыста асвячае Ваш шлях, Найсвяцейшая Божая Маці апекуецца і дадае стойкасці і цярплівасці, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі. Дзякуем за Вашы добрыя і цёплыя сэрцы, ахвярнасць і шчырасць, а Пану Богу – за тое, што паслаў нам Вас. Шчаслівых і радасных свят!

*З малітвай і павагай вернікі з Астраўца, пар. свсв. Космы і Дам'яна*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шмат сіл і стойкасці ў вядзенні людзей да Хрыста. Хрыстос Уваскрос!

*Вернікі з пар. Найсвяцейшай Панны Марыі, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які Вам вызначыў Усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні. Мы дзякуем Вам за працу ў нашай парафіі, цярплівасць, прыгожыя, мудрыя і павучальныя казанні, дабрыню і сціпласць, клопат пра людзей і чулае сэрца, а Вашай маме – за сына святара.

*З малітвай і павагай вернікі з пар. св. Юрыя ў Варнянах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юзафу Багдзевічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды жывуць радасць і супакой, любоў і дабрыня, а дзейсная энергія спадарожнічае Вам доўгія гады, прыносячы бясконцую радасць ад плёну святарскай працы. Няхай св. Заступнік апекуецца Вамі, а Езус Хрыстус і Яго Найсвяцейшая Маці адорваюць бязмежнай любоўю і асвячаюць кожны дзень Вашага жыцця. Мы вельмі ўдзячны Вам за клопат пра наш касцёл, за цеплыню, утульнасць і супакой, што пануюць у яго сценах, за тое, што з усімі хваробамі і болем душы мы спяшаемся туды. Дзякуем Вам за мудрыя казанні і добрыя парады, якія саграваюць і лечаць душу, дапамагаюць унесці часцінку святла і пяшчоты ў сваё жыццё.

*З малітвай вернікі з пар. свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, цярплівасці і стойкасці ў духоўным выхаванні людзей рознага ўзросту. Няхай усемагутны Бог узнагароджвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая штодзённа ахінае пяшчотай, дабрынёй і бласлаўленнем. Няхай св. Заступнік узносіць свае малітвы за Вас да Бога, а Дух Святы шчодра адорвае сваімі дарамі, каб промні Божай міласэрнасці асвяцілі Ваш шлях і напоўнілі радасцю і шчасцем. Ад усяго сэрца дзякуем за мудрыя павучанні, Божае слова, чулае добрае сэрца, цудоўны прыклад веры і чалавечнасці, нястомны клопат і адданую працу на карысць нашай парафіі і дэканата.

*Удзячныя парафіяне з касц. Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважаны Ксёндз Андрэй Пышынскі!**

Шчыра віншуем Вас з Днём святара і надыходзячымі Велікоднымі святамі. Жадаем моцнага здароўя, натхнення і вытрымкі на доўгія гады пастарскага служэння. Нялёгкі цяжар ляжыць на плячах, агорнутых сутанаю. Ніхто, акрамя самога Хрыста, да канца не ведае, якія вялізныя намаганні даводзіцца прыкласці святару ў сваім служэнні. Нягледзячы на гэта, у Вашых вачах мы бачым любоў і дабрыню. Як знак Божай любові мы ўспрымаем тое, што, дзякуючы Вашым намаганням, мы маем магчымасць сустракацца з Панам Богам у аднаўленым касцёле. Жадаем, каб Бог аддзячыў Вам сваёй міласэрнасцю і шчодрымі ласкамі, дапамагаў трываць у веры і з яшчэ большай моцаю раскрываў у Вас патэнцыял Хрыстовага святарства. Няхай Бог Айцец, Маці Божая і ўсе святыя апекуюцца Вамі і бласлаўляюць паўсюль, заўсёды, да канца жыцця.

*З вялікай удзячнасцю і пашанай вернікі з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем мноства ласкаў ад Пана Бога, сіл і стойкасці на жыццёвым шляху, моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень.

*Вернікі з капл. у Вердамічах*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвятляе святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Маці Божай дадаюць сіл і цярплівасці. Дзякуем Вам за добрае і чулае сэрца, клопат пра хворых і пакінутых людзей, за ратаванне і навяртанне нашых душ, а Пану Богу – за тое, што паслаў нам Вас.

*Парафіяне з в. Еўлашы*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Марціновічу, Юрыю Свіслоцкаму, Вітольду Лазавіцкаму, Юзафу Ханьчыцу, Аляксандру Севасцьяновічу, Валерыю Быкоўскаму і Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Дня святара і надыходзячых Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем шчодрых ласкаў і бласлаўлення ад уваскрослага Хрыста, здароўя, радасці, супакою і шчасця. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю.

*Вернікі з пар. Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, сіл, радасці, доўгіх і спакойных гадоў жыцця. Няхай у Вашым сэрцы заўсёды жыве любоў, а навокал пануе супакой. Дзякуем за працу, зычлівасць і цудоўнае абвяшчэнне Божага слова.

*Парафіяне з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**

з нагоды Велікодных свят і Дня святара перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, шчасця і радасці, доўгіх і бласлаўлёных гадоў жыцця, спакойных дзён у святарскай паслузе, а таксама верных сяброў побач. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае супакоем і любоўю, Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі, Святы Дух спасылае свае дары, а Пан Бог мае ў сваёй міласэрнасці. Аддзяч, Божа, за дабрыню і цярплівасць.

*Колы Жывога Ружанца з капл. Бортнікі*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем здароўя на доўгія гады і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Ваша энергія, зычлівасць, радасць і ўсмешка і далей прысутнічаюць у жыцці, а ўваскрослы Пан шчодра адорвае Вас сваімі ласкамі. Божага бласлаўлення і сілы ў выкананні штодзённых абавязкаў! Хрыстос Уваскрос!

*Былыя парафіяне з Варнянаў*

**Паважаным Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму, Ксяндзам Паўлу Раманоўскаму, Андрэю Радзевічу, Яну Раманоўскаму, Паўлу Беланосу і Святарам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем шчодрых ласкаў Святога Духа. Няхай Ён вядзе Вас па Божых сцежках, а Маці Божая мае Вас у сваёй апецы. Няхай кожны дзень мінае ў радасці і здароўі, а побач будуць толькі зычлівыя людзі. Радаснага Алелюя!

*Ружанцовыя колы, Апостальства дапамогі чысцовым душам і ўдзячныя вернікі з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды свят Уваскрасення Езуса Хрыста, а таксама Дня святара перасылаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена толькі добрымі справамі, Бог Айцец няхай адорвае здароўем, сілай і цярплівасцю, уваскрослы Хрыстос і Яго Найсвяцейшая Маці апраменьваюць бязмежнай любоўю і асвячаюць кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Дух Святы спасылае свае шчодрыя дары. Дзякуем Вашай маме за сына святара. Радасных свят! Алелюя!

*Касцёльны камітэт з пар. Нараджэння НПМ у Трабах*

**Каханым Сёстрам Ганне, Агнешцы і Удаве Сабіне**

з нагоды свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, цярплівасці, нястомнай паслугі Богу і людзям. Няхай уваскрослы Пан Езус валадарыць у Вашых сэрцах і адорвае сваімі ласкамі, а Маці Божая заўсёды клапоціцца і ахінае сваёй цеплынёй, дабрынёй і любоўю. Вясёлага Алелюя!

*Удзячныя вернікі з пар. Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў: моцнага здароўя на доўгія гады, радасці, шчодрых дароў Святога Духа, Божага бласлаўлення на кожны дзень жыцця і сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Радасных свят!

*Парафіяне з в. Скярсі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення і добразычлівых людзей побач. Няхай Дух Святы асвятляе Твой шлях на працягу ўсіх гадоў святарскай паслугі, а Маці Божая дадае сіл, цярплівасці і стойкасці на выбраным шляху. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць Табе радасць і задавальненне.

*З вялікай павагай сем'і Барковіч, Пашнікoвіч і М. Чайкоўская*

**Паважаным Ксяндзам Андрэю Лысаму, Сяргею Ангуру, Андрэю Жылевічу і Юрыю Марціновічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем сілы, стойкасці, непахіснай веры, надзеі, а таксама здароўя, радасці, шчасця і поспехаў ва ўсіх пачынаннях. Няхай уваскрослы Хрыстос указвае Вам належны шлях да збаўлення.

*"Маргарытка" з капл. у в. Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем Божага бласлаўлення, доўгіх гадоў жыцця, здароўя, стойкасці ў душпастарскай працы, дароў Хрыста, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, сталай апекі Панны Марыі, душэўнага супакою, людской добразычлівасці, радасці і надзеі. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, шчодра адорвае сваімі ласкамі.

*Вернікі з капл. у в. Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем Божай любові, шмат ласкаў ад Езуса Хрыста, дароў Святога Духа, сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, здароўя, моцнай веры, стойкасці ў пакліканні. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена радасцю, аптымізмам і людской добразычлівасцю. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*З малітвай парафіяне з в. Малінавая*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя, радасці, шчасця. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе напоўнены Божым бласлаўленнем, а дабрыня і зычлівасць, якую Вы дорыце людзям, заўсёды да Вас вяртаюцца. Будзьце і далей для нас прыкладам моцнай веры і набожнасці. Дзякуем Вам за ўсё. Шчасці Божа!

*Удзячныя вернікі з пар. Мсцібава*

**Паважаным Ксяндзам Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Урбану, Паўлу Салабуду і Андрэю Зайко**

з нагоды свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення, душэўнага супакою, радасці ад выконваемай працы, а таксама здароўя, стойкасці і моцнага духу на нялёгкім святарскім шляху. Дзякуем, што не забываеце пра нашу парафію.

*Удзячныя вернікі з пар. Мсцібава*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Юрыю Жэгарыну, Ксяндзам Яну Балтрукевічу, Аляксандру Баклажцу, Аляксандру Сасноўскаму, Дзмітрыю Леўчыку і Чэславу Ладыку, Клерыку Вадзіму Каўтанюку і Сёстрам назарэтанкам з Навагрудка**

з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, сілы і цярплівасці. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас усімі ласкамі і напоўніць сэрцы супакоем і любоўю. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Навагрудка*

**Паважаным Ксяндзу Яну Рэйшалю і Сястры Ганне**

з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, шчасця, спакойных дзён, радасці, поспехаў у працы на карысць Богу і людзям, а таксама ўсіх ласкаў ад уваскрослага Пана.

*Суседзі*

**Паважанаму Ксяндзу Вітольду Чургану**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем шчырыя пажаданні: моцнага здароўя, поспехаў у працы, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых Божых ласкаў і ўсіх дароў Святога Духа. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за супольную малітву. Няхай міласэрны Бог бласлаўляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі.

*Парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Вітольду Пяцельчыцу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: здароўя, сілы, радасці, Божай дапамогі ва ўсіх душпастарскіх справах, а таксама апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа.

*Ружа св. Агаты з пар. св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне*

працяг на с. 8

